МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

№11 (47) ЛІСТАПАД 2005

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ДАДАТАК



Круглы стол

## "ПАЛІТЫЧНЫЯ АСПЕКТЫ ЕЎРАПЕЙСКАЙ ІНТЭГРАЦЫІ"

**19-20 лістапада 2005 г. у Мінску адбыўся Круглы стол "Палітычныя аспекты еўрапейскай інтэграцыі". Арганізатарамі выступілі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", Інфармацыйна-аналітычны цэнтр НДА, ГА "Фонд "Адкрытае грамадства" і аналітычны штотыднёвік "Белорусы и рынок". У працы Круглага стала ўдзельнічалі прадстаўнікі недзяржаўных арганізацый, журналісты і дэпутаты мясцовых Саветаў.**

**Увазе чытачоў прапануюцца даклады выступоўцаў Круглага стала. У наступным выпуску мы працягнем знаёмства з дакладамі.**

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Сезон еўраскептыкаў

*Паўлюк Быкоўскі,*
*загадчык аддзела ўнутранай палітыкі штотыднёвіка "Белорусы и рынок", Мінск*

Стварэнне на Еўрапейскім кантыненце гіганцкага міждзяржаўнага аб'яднання з насельніцтвам звыш за 450 млн. чалавек і сукупным ВУП парадку 10 трлн. EUR радыкальна змяніла эканамічны і палітычны краявід ва ўсім свеце. Ужо паўтары гады ЕС з'яўляецца непасрэдным суседам Беларусі. Якімі вачыма беларусы глядзяць на новага суседа?

**Сацыёлагі (НІСЭПД, Вільня) адзначаюць гэтай восенню рэкордна нізкі ўзровень праеўрапейскіх скіраванасцяў беларусаў і яго паніжэнне нават у параўнанні з пачаткам бягучага года.**

Сацыёлагі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў* (НІСЭПД, Вільня) адзначаюць гэтай восенню рэкордна нізкі ўзровень праеўрапейскіх скіраванасцяў беларусаў і яго паніжэнне нават у параўнанні з пачаткам бягучага года. Падчас нацыянальнага апытання грамадскай думкі* ў верасні толькі 38% рэспандэнтаў выказаліся за тое, каб Беларусь стала сябрам ЕС, у той час як 44% – супраць. Значэнні блізкія, але праціўнікаў уваходжання ў аб'яднаную Еўропу больш. Між тым праведзеныя вясной апытанні фіксавалі, што прыхільнікаў уваходжання ў ЕС было больш, чым праціўнікаў (52,8 і 44,4% адпаведна ў сакавіку, 47,4 і 35,4% – у траўні).

Што стала прычынай змянення скіраванасцяў беларускіх грамадзян? Верагодна, паўплываў комплекс фактараў. З аднаго боку, афіцыйныя Мінск і Варшава (а разам з апошняй і Брусель) былі ўдзельнікамі вострага дыпламатычнага канфлікту, які разгарнуўся вакол ГА "Саюз палякаў на Беларусі". З другога боку, гучны правал рэферэндумаў па Канстытуцыі ЕС у шэрагу еўрапейскіх краін павінен быў знізіць прывабнасць дадзенага міждзяржаўнага аб'яднання.

Між тым Беларусь ніхто не запрашаў у ЕС, ды і афіцыйны Мінск не прасіў прадаць яму білет на ўваход у гэты клуб дзяржаў, а беларуская прэса расхвальвае перавагі эксклюзіўных адносін з Расіяй і пабудавання разам з ёю Саюзнай дзяржавы і ў той жа час апісвае жахі пашырэння ЕС. Пры гэтым у беларусаў вельмі мала фактычнай інфармацыі пра тое, што адбываецца ў Еўропе, і пра беларуска-еўрапейскія сувязі. Таму пытанне, ці павінна Беларусь уваходзіць у ЕС, з'яўляецца шмат у чым абстрактным, адкрывае перш за ўсё скіраванасці беларусаў і іх каштоўнасныя ўстаноўкі, а не ацэнку нейкага рэальнага палітычнага дзеяння, нават адкладзенага ў часе.

З пункту гледжання ўстановак цікава прааналізаваць адказы на пытанне: "Як бы вы прагаласавалі, калі б сёння праходзіў рэферэндум па выбары будучага развіцця Беларусі?" Адносная большасць (38,1%) зрабіла выбар на карысць аб'яднання з Расіяй у параўнанні з усімі астатнімі варыянтамі інтэграцыі, меншасць (17,4%) выбрала ўваходжанне ў ЕС. Разам з тым ёсць значныя групы тых, хто выступае "і за першае, і за другое" (20,2%) і "супраць першага і другога" (18,4%).

Калі прасачыць за дынамікай адказаў на гэтае пытанне, то можна заўважыць, што прывабнасць Расіі фактычна вярнулася да ўзроўню "атручвання" адносінаў "газавай вайной" у 2004 г., а вось прывабнасць ЕС панізілася (гэта заўважна як па групе, якая выбірала "інтэграцыю ў ЕС", так і "першае і другое").

Адначасова адзначаецца ўстойлівы рост ізаляцыяніцкіх настрояў, якія супаў па часе з ахаладжваннем адносінаў афіцыйных Мінска і Масквы ў 2004 г. Фіксуючы гэты факт, аналітыкі НІСЭПД у сакавіку мінулага года прыйшлі да высновы, што "пагаршэнне адносінаў з Расіяй пакуль не спрыяла пераарыентацыі грамадскай свядомасці ў бок Еўропы. Беларусы, якія адвярнуліся ад Масквы, проста зноў прыслухаліся да меркавання лідэра дзяржавы. Як вядома, гэтае меркаванне можа зноў змяніцца".

Напярэдадні ацяпляльнага сезона і заключэння новых кантрактаў на пастаўку расійскага газу ў Беларусь пазіцыя афіцыйнага Мінска перацярпела значны дрэйф у бок Масквы. Перакананыя прыхільнікі беларуска-расійскай інтэграцыі зноў акрыялі, але ізаляцыяніцкія настроі апынуліся вельмі ўстойлівымі.

Пры больш жорсткім выбары – або



**Напярэдадні ацяпляльнага сезона і заключэння новых кантрактаў на пастаўку расійскага газа ў Беларусь пазіцыя афіцыйнага Мінска перацярпела значны дрэйф у бок Масквы.**

аб'яднанне з Расіяй, або ўступленне ў ЕС — рэспандэнты ўсё-ткі робяць выбар на карысць усходняй суседкі Беларусі. Як можна бачыць, у 2004 г. быў перыяд, калі геапалітычная дылема мела амаль роўныя шанцы на вырашэнне, паколькі перавага Расіі над ЕС была вельмі нязначнай. Зараз жа перспектыва адкрыцця заходняй мяжы заўважна губляе прыхільнікаў. Хто з'яўляецца прыхільнікам еўрапейскай інтэграцыі Беларусі? Сярод мужчын праеўрапейская скіраванасць крыху больш моцная, але нязначна. Пры аналізе ўзроставых груп бачна, што прыхільнікаў еўрапейскай інтэграцыі больш сярод маладых людзей (ад 20 да 30 гадоў) і з павелічэннем узросту расце колькасць праціўнікаў уваходу Беларусі ў ЕС. Зваротная тэндэнцыя назіраецца пры павелічэнні ўзроўню адукацыі. Штосьці падобнае заўважна і ў групах з розным узроўнем даходаў (тут водападзелам служыць сярэдні памер даходу на аднаго члена сям'і 460 тыс. BYR).

Ні мова паўсядзённых камунікацый, ні нацыянальнасць рэспандэнтаў прынцыпова не ўплываюць на іх стаўленне да вырашэння беларускай геапалітычнай дылемы. Статус і месца працы маюць невялікае значэнне. Пенсіянеры часцей за навучэнцаў з'яўляюцца праціўнікамі інтэграцыі ў ЕС, але гэта, відавочна, адлюстраванне ўзросту рэспандэнтаў. Пераважная большасць беларусаў працуе ў дзяржаўным сектары эканомікі, і ў гэтай групе прысутнічаюць як прыхільнікі, так і праціўнікі ўваходу Беларусі ў ЕС.

**У рэгіянальным разрэзе сярод "еўраптымістаў" лідзіруюць Віцебская (44,5%) і Гродзенская (42,3%) вобласці, а сярод "еўраскептыкаў" — Мінская (59,4%) і Магілёўская (51%) вобласці.**

У рэгіянальным разрэзе сярод "еўраптымістаў" лідзіруюць Віцебская (44,5%) і Гродзенская (42,3%) вобласці, а сярод "еўраскептыкаў" – Мінская (59,4%) і Магілёўская (51%) вобласці. Жыхары сталіцы выбіраюць штосьці блізкае да "залатой сярэдзіны" (39,4% мінчан выступаюць за ўваход у ЕС, 44,2% – супраць). Адметна тое, што рэгіён пражывання і кантакты з памежнымі краінамі не з'яўляюцца галоўным фактарам пры адказе на дадзенае пытанне.

Сярод вясковых жыхароў колькасць прыхільнікаў уваходу ў ЕС мінімальная (27,5%), а праціўнікаў – максімальная (55,7%). У астатніх выпадках тып пасялення не мае прынцыповага значэння. Найбольш значнымі з'яўляюцца палітычныя ўстаноўкі рэспандэнтаў. Так, 72,6% апазіцыянераў выступаюць за ўваходжанне ў склад ЕС, у той час як сярод прыхільнікаў А.Лукашэнкі пераважаюць праціўнікі інтэграцыі ў Еўропу. Праўда, для еўраптымістаў гэтыя дадзеныя будуць слабым суцяшэннем, бо да апазіцыі сябе аднеслі толькі 17,3% апытаных.

* Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) зарэгістраваны ў Літве. Апытанне праводзілася групай незалежных сацыёлагаў пры спрыянні НІСЭПД. Метадам face-to-face interview апытана 1.504 чалавекі ва ўзросце 18 год і больш. Максімальная памылка рэпрэзентатыўнасці не перавышае 3%. Сайт НІСЭПД:
**www.iiseps.org**

# Дэмакратызацыя Украіны ў кантэксце пашырэння Еўрасаюза: спадзяванні і рэаліі

*Андрэй Кірчаў,*
*Рэдактар часопіса "Ї", Львоў*

Аглядаючыся на год, які прайшоў пасля памятнага Майдану, унікальнага паўстання гандыйскага тыпу ў сталіцы вялікай Еўрапейскай краіны, Віктар Юшчанка мусіў бы шчыра прызнацца: абсалютная большасць здабыткаў узначаленай ім маштабнай дэмакратычнай акцыі страчана, прычым часткова – незваротна. Ільвіная доля абяцанняў так і засталася на дэкларатыўным узроўні. На дзейснае кіраўніцтва няўхільна насоўваецца пагроза страты аўтарытэту. Не дадалі аўтарытэту падпісанне незразумелай дамовы з асобай, якая стаіць на чале апазіцыі, а таксама зацвярджэнне закону пра дэпутацкую недатыкальнасць. Папулісцкі слоган "Прэзідэнт усёй Украіны" не дадаў павагі ні на Захадзе, ні на Усходзе. Вынік: значны працэнт расчаравання і апатыі ў грамадстве, недавер знешніх партнёраў да запланаваных рэформ і магутная апазіцыя з ліку ўчарашніх прыхільнікаў.

**Ажыццяўленне чарговай фазы пашырэння ЕС стварыла некалькі зон канфліктаў інтарэсаў на еўразійскай прасторы. Пашырэнне зоны ўплыву ЕС паменшыла патэнцыйную сферу ўплыву Расіі.**

Не ўсё, аднак, настолькі дрэнна. Кадравая блытаніна ўсяляла веру ў пошук аптымальных кандыдатур. Неўтаймаванасць "сацыяліста ўнутраных спраў" набыла папулярнасць у масах як разнавіднасць палітычнага відовішча. Слова медый сапраўды набыло шматграннасць, а прамая дэмакратыя стала пагрозай для чыноўніцтва і, як ні парадаксальна, ледзь не адзіным дзейсным інструментам для змен.

**Працэс пашырэння ЕС і палітычная палярызацыя на кантыненце.**

Ажыццяўленне ў маі 2004 года чарговай фазы пашырэння ЕС з формулай "15+10" стварыла некалькі зон канфліктаў інтарэсаў на еўразійскай прасторы. Перш за ўсё, пашырэнне зоны ўплыву ЕС аўтаматычна паменшыла патэнцыйную сферу ўплыву Расіі, што не магло прайсці без рэакцыі апошняй, гэта выразілася ў першую чаргу ў спробе ўмацаваць свае пазіцыі ва Украіне, у Беларусі і Малдове, а таксама ў спробах энергетычнага ціску на новых сяброў ЕС.

"Слабым звяном" працэсу пашырэння ЕС сталі адносіны "новых" і "старых" сяброў Саюза. Усведамленне Брусселем неабходнасці еўрапейскіх датацый і іншых відаў дапамогі новапрынятай "дзесятцы" зусім не азначала, што з гэтым пагаджаюцца сябры супольнасці "пятнаццаткі". З іншага боку, уступленне ў ЕС для новых членаў вылілася ў шалёныя тэмпы давядзення ўласных эканамічных сістэмаў да стандартаў Саюза, разам з пратэкцыянізмам і жорсткімі абмежаваннямі права на працу і пражыванне грамадзян з краін гэтай прасторы ў дзяржавах "старога Еўрасаюза". Апошняя ўмова выклікала асаблівае абурэнне і здзіўленне новых еўраграмадзян, паколькі на практыцы адначасова з гэтым абмежаваннем ніхто з чыноўнікаў у Бруселі ці ў іншых еўрапейскіх сталіцах нават не думаў прыкрыць "зялёны шлях" для выхадцаў з краін Афрыкі, Азіі і Блізкага Усходу, якія нават у сілу паходжання і веравання маглі ўяўляць пагрозу нацыянальнай бяспецы ў кантэксце міжнароднага тэрарызму.

Можна дапусціць са значнай доляй пэўнасці, што менавіта двухбаковае рас-

чараванне на першым этапе паўнацэннай інтэграцыі прывяло да правалу Еўраканстытуцыі і ўзмацнення праванакіраваных сіл у новапрынятых краінах–сябрах ЕС (у прыватнасці, іх перамога на парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах у Польшчы, дзе кандыдат-пераможца абяцаў не спяшацца з далучэннем да Еўразоны і падкрэсліваў уласныя каштоўнасці Рэчы Паспалітай).

**Падчас працэсу пашырэння ЕС стаў складанай і буйной канструкцыяй, якая ў канечным выніку можа пераўтварыцца ў структуру з некалькімі інтэграцыйнымі цэнтрамі.**

Не менш сур'ёзным выпрабаваннем на моцнасць еднасці ЕС і яго гатоўнасць пашыраць межы дэмакратыі па-над усталяванымі стэрэатыпамі сталі перамовы адносна наступных сяброўстваў. Сітуацыя з Турцыяй выглядала б камічна, калі насамрэч не была настолькі сумнай. Жаданне дасягнуць Блізкага Усходу з адначасовым кантролем галоўных Чарнаморскіх праліваў упёрлася (у значнай ступені – фармальна) у Кіпрскі канфлікт. Праўда, асобныя "аптымісты" былі гатовыя адразу пачаць размову пра прыняцце ў Еўрасаюз, што пашыраецца ва ўсе бакі, Ізраіля і Марокка, але пераважная большасць успрыняла гэта як дрэнны жарт.

Увогуле, у працэсе пашырэння ЕС стаў складанай і буйной канструкцыяй, для якой важна падабраць адэкватны механізм менеджменту і якая ўрэшце можа пераўтварыцца ў структуру з некалькімі інтэграцыйнымі цэнтрамі. Іх з'яўленне фактычна можа стаць пачаткам дэзінтэграцыі стварэння дэ Голя і Адэнаўэра.

**АБСЕ падрыхтавала рэкордную колькасць сваіх назіральнікаў для ўкраінскіх выбараў. Такія паводзіны выклікалі адчувальную раздражнёнасць з наступным выхадам за рамкі законнасці.**

Зонай напружання, несумненна, стала мяжа новых сябраў ЕС з аўтсайдэрамі, і ў першую чаргу – з Украінай. Пры гэтым ЕС пакінуў за сабой ролю ментара-дарадніка адносна падтрымання дэмакратыі ва Украіне з элементамі падтрымкі яе развіцця праз недзяржаўны сектар.

**"Аранжавая рэвалюцыя" і фактар суседства з ЕС.**

Сёння можна з пэўнасцю казаць пра тое, што без знешнепалітычнай маральнай падтрымкі заходніх дэмакратый першасны поспех гэтай каласальнай акцыі грамадска-палітычнага пратэсту быў бы як мінімум няпоўны, а то і ўвогуле зведзены да нуля.

Дапамога распачалася яшчэ на першым этапе перадвыбарчай агітацыі, калі стала зразумелым, што асноўная барацьба разгорнецца паміж двума Віктарамі і што адзін з іх яўна рабіў стаўку на адмінрэсурс і фальсіфікацыю. У афіцыйных і неафіцыйных размовах з украінскім кіраўніцтвам лідэры краін-сябраў ЕС намякалі, а калі-некалі і прама казалі, што яны зацікаўленыя ў вытрымцы дэмакратычных норм ва Украіне. У той жа час як у самой краіне, так і за мяжой спецыялісты праводзілі дэтальны аналіз ходу перадвыбарчых баталій і маніторынг СМІ. Цалкам слушна было выказана меркаванне, што дзейная ўлада выкарыстае максімум даступных ёй спосабаў для захавання існуючага рэжыму са зменай толькі партрэта выканаўца галоўнай ролі. Таму АБСЕ падрыхтавала рэкордную колькасць сваіх назіральнікаў для ўкраінскіх выбараў. Такія паводзіны сталі неспадзяванкай для ўлады і выклікалі адчувальную раздражнёнасць з наступным выхадам за межы законнасці.

Каманда прэтэндэнта ад апазіцыі атрымала празрысты сігнал, што ў краіне наступае іншая эпоха. ЕС пэўным чынам рабіўся адным з гарантаў таго, што падтрыманы ім кандыдат ад дэмакратычнай апазіцыі ў выпадку перамогі не адступіцца ні на ёту ад абавязку быць гарантам Канстытуцыі. Фактычным штуршком да адназначнай падтрымкі стала брутальная фальсіфікацыя вынікаў 2-га туру выбараў і не менш цынічныя паводзіны расійскага прэзідэнта. Такім чынам разгарнулася барацьба за Украіну ў сэнсе яе выбару стратэгічнай мадэлі і напрамку развіцця – заходняга прыкладу дэмакратыі ці ўсходняга прыкладу алігакратыі.

Са значнай ступенню пэўнасці можна сказаць, што менавіта дзякуючы паслядоўнай пазіцыі заходніх дэмакратый і іх падтрымцы на ўсіх узроўнях, уладныя эліты Украіны, нягледзячы на значны ціск Крамля, не прымянілі сілы супраць дэманстрантаў на Майдане.

**Планы і няўдачы.**

Калі ў выкананні агульных абвешчаных прынцыпаў новая ўкраінская адміністрацыя не выклікала значных сумненняў, выгадна адрозніваючыся гэтым ад усіх папярэдніх, то адносна эфектыўнасці яе асобных звенняў на практыцы былі грунтоўныя падставы для недаверу. Перш за ўсё гэта тычылася прынцыпу "аплаты вексяляў за вернасць на Майдане". Праца на сцэне эпіцэнтру пратэсту аказалася для большасці каманды прэзідэнта непараўнальна больш простым і лёгкім заданнем, чым праца з рэальнымі штодзённымі праблемамі дзяржаўнага маштабу ў міністэрскіх кабінетах. Як лідэр гэтай каманды, Ючшанка не мог не прагназаваць барацьбу амбіцый унутры новага ўраду, спробы падпарадкаваць усю дзяржаву ўласнаму бізнесу і проста неадпаведнасць занятым пасадам вялікай часткі вярхоўнай выканаўчай улады.

**Занепакоенасць выклікае яўнае невыкананне значнай колькасці перадвыбарчых абяцанняў, у прыватнасці тых, што тычыліся пакарання карупцыянераў і вінаватых у выбарчых махінацыях.**

Яшчэ большую занепакоенасць украінскага грамадства і заходніх дэмакратый выклікае яўнае невыкананне значнай колькасці перадвыбарчых абяцанняў, у прыватнасці тых, што тычыліся пакарання карупцыянераў і вінаватых у выбарчых махінацыях.

У цэлым, турбуе фармальны падыход да празрыстасці дзейнасці ўлады з элементамі напаўпраўды ў яе асвятленні. Грамадства далікатна намагаюцца аддзяліць ад улады напаўпразрыстай гуканепранікальнай шырмаю, пакідаючы яму эвентуальную магчымасць абараніць свае правы праз суды і шляхам прымянення прамых дэмакратычных дзеянняў.

**Магчымыя сцэнары развіцця дэмакратыі і сілавое поле суседзяў Украіны.**

Прынцыповы напрамак развіцця , які запануе ва Украіне, залежыць у поўнай меры ад выбару напрамку арыентацыі ўладных эліт пасля завяршэння выбарчага працэсу і канчатковага фармавання парламента. Зараз, нягледзячы на ўсе амбіцыі, памылкі, шараханні ў розныя бакі і рудыменты саветызму, пераважае празаходні напрамак у пошуках узору для ўкраінскай мадэлі. Яго яшчэ пры абранні засведчыў прэзідэнт, у ім зацікаўлена каманда яго атачэння і ўраду.

Без дапамогі новых сябраў ЕС, якім у свой час давялося прайсці гэты шлях, без іх досведу і практычных парад нам усё ж такі не абысціся.

# Канстытуцыя Еўрасаюза як найвялікшы сучасны праект палітычнай інтэграцыі ЕС

*Яраслаў Крывы,*
*выкладчык факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Мінск*

**Прыняцце Канстытуцыі ЕС:**

· Дзяржавы ЕС павінны ўхваліць Канстытуцыю аднагалосна падчас урадавай канферэнцыі.

· Усе краіны павінны падпісаць і ратыфікаваць Канстытуцыю.

· Канстытуцыя заменіць усе папярэднія дагаворы (IV-438) і набірае моц у лістападзе 2006 г. у выпадку, калі ўсе дзяржавы ратыфікуюць Канстытуцыю.

· Калі не ўсе, але як мінімум 80% дзяржаваў ратыфікуюць Канстытуцыю на працягу 2 гадоў, палітычнае рашэнне павінна быць прынятае ўсімі краінамі.

· Любая краіна можа дэнансаваць Канстытуцыю з звухгадовым тэрмінам папярэджання.

**Ратыфікацыя:**

* ТАК – Літва, Венгрыя, Славенія, Італія, Грэцыя, Славаччына, Аўстрыя, Германія, Латвія, Кіпр, Мальта, Іспанія, Люксембург.

* НЕ – Францыя (54,68%), Нідэрланды (61,1%).

* Прыпынілі ратыфікацыю – Швецыя, Фінляндыя, Партугалія, Данія, Польшча.

* Працягваюць працэс ратыфікацыі – Бельгія, Ірландыя, Эстонія; у Вялікабрытаніі – рэферэндум у 2006 г..

**Інстытуты ЕС:**

* Еўрапейскі Парламент (I-20)

- 750 дэпутатаў з 2009 г. (меншыя краіны маюць большае прадстаўніцтва, чым вялікія) (I-20.2);

* Еўрапейскі Савет (I-21)

- Кіраўнікі дзяржаваў і ўрадаў і прэзідэнт Камісіі (I-21.2);

- Будзе ўведзена пасада пастаяннага прэзідэнта Еўрапейскага Савета (I-22);

* Савет міністраў (I-23)

- Адзін міністр ад кожнай краіны (I-23.2);

- Рашэнні звычайна прымаюцца кваліфікаванай большасцю (I-23.3);

* Камісія

* Адзін прадстаўнік ад кожнай краіны да 2014 г.

- Пасля толькі 2/3 краінаў будуць мець камсіянера. У ЕС25 будзе 17 сябраў Камісіі (I-26.6);

* Суд справядлівасці

- Як мінімум адзін суддзя ад кожнай краіны;

- Вышэйшы суд для права ЕС.

- Спецыялізаваныя суды могуць ствараціца кваліфікаванай большасцю.

**Кампетэнцыя Саюза:**

* **Выключная кампетэнцыя** (I-13)

- Дзяржавы-ўдзельніцы дзейнічаць толькі з дазволу ЕС;

* **Падзеленая кампетэнцыя** (I-14)

- Калі ЕС прымае заканадаўства ў гэтай сферы, дзяржавы-ўдзельніцы больш не маюць права рэгуляваць гэтую сферу;

* **Кампетэнцыя для каардынаваных дзеянняў** (I-17)

- Кампетэнцыя Саюза прымаць дзеянні па падтрымцы, каардынацыі ці дапаўненні дзеянняў дзяржаваў ЕС;

- ЕС можа прымаць свае акты, але не можа гарманізаваць законы дзяржаваў ЕС (I-12.5);

**Выключная кампетэнцыя:**

· Мытны Саюз

· Правіла канкурэнцыі для функцыявання ўнутранага рынка

· Манетарная палітыка для Еўразоны

· Захаванне марскіх біялагічных рэсурсаў

· Агульная камерцыйная палітыка

· Міжнародная правасуб'ектнасць = міжнародныя дамовы

**Падзеленая кампетэнцыя:**

· Унутраны рынак

· Сацыяльная палітыка (асобныя аспекты)

· Эканамічнае, сацыяльнае і тэрытарыяльнае адзінства

· Сельская гаспадарка і рыбная лоўля (за выключэннем захавання марскіх біялагічных рэсурсаў)

· Навакольнае асяроддзе

· Абарона спажыўцоў

· Транспарт

· Сфера свабоды, бяспекі і правасуддзя

· Агульныя меры аховы здароўя (некаторыя аспекты)

· *Іншыя*

*Калі ЕС прымае заканадаўства ў гэтай сферы, дзяржавы-ўдзельніцы больш не маюць права рэгуляваць гэтую сферу (I-12.2)*

**Кампетэнцыя для каардынаваных дзеянняў:**

· Абарона і паляпшэнне здароўя людзей

· Прамысловасць

· Культура

· Турызм

· Адукацыя, моладзь, спорт і павышэнне кваліфікацыі

· Грамадзянская абарона

· Адміністрацыйнае супрацоўніцтва

*Напрыклад, ЕС можа ўстанавіць паралельную адукацыйную сістэму, але не можа непасрэдна ўплываць на змест і структуру нацыянальнай адукацыі.*

**Новыя сферы кампетэнцыі:**

· Абарона інтэлектуальнай уласнасці

· Космас

· Энергія

· Культура

· Спорт

· Грамадзянская абарона

· Адміністрацыйнае супрацоўніцтва

· Гуманітарная дапамога

· Турызм

· Іміграцыя

· Палітычны прытулак

· Фундаментальныя правы

**Акты заканадаўства:**

· Законы – былыя "рэгламенты", абавязковыя цалкам і непасрэдна прымяняемыя (I-33.1)

· Рамачныя законы – былыя "дырэктывы", адрасаваныя дзяржавам ЕС (I-33.1)

· Прымаюцца разам Саветам і Парламентам (75% усіх сфераў)

**Не-заканадаўчыя акты:**

* Рэгламенты і рашэнні (I-35.2)

- Абавязковыя (рэгламенты непасрэдна прымяняюцца), прымаюцца Саветам, Камісіяй ці ЕЦБ;

* Рэкамендацыі і меркаванні (I-33 and I-35.3);

- Не абавязковыя;

**Прававыя інструменты Саюза**

Дэлегаваныя рэгламенты для неістотнага заканадаўства (I-36):

- Прымаюцца Камісіяй, абавязковыя як законы;

- Законы Камісіі могуць быць заблакаваны толькі абсалютнай большасцю ў Парламенце ці кваліфікаванай большасцю Савета (I-36.2);

Акты прымянення

- Даюць Камісіі ці Савету паўнамоцтвы па прымяненню, калі патрабуецца ўніфікаванае прымяненне (I-37)

**Каштоўнасці**

Канстытуцыя ЕС уводзіць агульныя каштоўнасці, якія павінны паважацца:

* Чалавечая годнасць, свабода, дэмакратыя, роўнасць, законнасць, правы чалавека і правы меншасцяў.

ЕС таксама заснаваны на наступных каштоўнасцях:

* Плюралізм, талерантнасць, правасуддзе, салідарнасць, не-дыскрымінацыя і роўнасць паміж мужчынамі і жанчынамі.

**Роля выбарцаў паводле Канстытуцыі**

· Выбарцы могуць выбіраць дэпутатаў Еўрапарламента кожныя 5 гадоў. Такім чынам яны могуць уплываць на права ў Еўропе.

· Выбарцы могуць галасаваць у нацыянальных выбарах і такім чынам уплываць на голас сваёй краіны ў Савеце Міністраў.

· Выбарцы не могуць выбіраць свайго прадстаўніка ў Камісіі ці Прэзідэнта Еўрапейскага Савета.

· Выбарцы праз свой нацыянальны Парламент могуць выйсці з ЕС з двухгадовым папярэджаннем.

**Прызначэнне выканаўчай улады**

25 кіраўнікоў дзяржаваў сустракаюцца пасля новых выбараў у Парламент. Павялічаная кваліфікаваная большасць (18 з 25) краінаў-удзельніц, што прадстаўляюць прынамсі 65% грамадзянаў, прызначаюць (I-22 and I-25.2):

- Прэзідэнта Еўрапейскага Савета ("прэзідэнт ЕС");

- Прэзідэнта Камісіі ("прэм'ер міністра ЕС");

- Міністра замежных спраў ЕС (таксама віцэ-прэзідэнт Камісіі);
- Поўны склад Камісіі.

**Прызначэнне выканаўчай улады**

* Еўрапейскі Парламент павінен ухваліць:

- Прэзідэнта Камісіі (І-27.1) абсалютнай большасцю, але не можа прапаноўваць іншага кандыдата;

- Поўны склад Камісіі (І-27.2) простай большасцю, але не можа прапаноўваць кандыдатуры

* Урады прапануюць кандыдатаў прэзідэнтаў Камісіі і Камісіянераў (І-27).

* Еўрапейскі Савет прызначе прэзідэнта Камісіі і Камісіянераў кваліфікаванай большасцю (І-27.1)

* Еўрапейскі Парламент можа адправіць у адстаўку Камісію, прагаласаваўшы большасцю ў 2/3, але не можа самастойна абраць новы склад (І-26.8 and ІІІ-340)

**15 тэзісаў**

1. **Дагавор замест Канстытуцыі:** Еўропа дэмакратыі замест дзяржавы ЕС.

2. **Меншы дагавор:** зменшылі і спрасцілі 100 тысячаў старонак заканадаўства ЕС, сканцэнтраваўшыся на памежных пытаннях, дзе нацыянальныя парламенты не могуць эфектыўна дзейнічаць.

3. **Адкрыта для ўсіх дэмакратычных краінаў Еўропы**, якія паважаюць Еўрапейскую Канвенцыю правоў чалавека.

4. **Спрашчаюць 30 розных працэдураў прыняцця рашэнняў** да двух:
законы і рэкамендацыі, што прымаюцца 75% краін-удзельніц, калі не прадугледжана іншае.

5. **Вета па ключавых пытаннях** прымаецца нацыянальным парламентам і прадстаўляецца на наступным еўрапейскім саміце.

6. **Законы па агульных, ключавых пытаннях:** правілы агульнага рынка для працаўнікоў, спажыўцоў, здароўя, бяспекі і навакольнага асяроддзя.

7. **Гнуткае супрацоўніцтва**: глыбейшае супрацоўніцтва праз кансенсус.

8. **Празрыстасць**: усе сустрэчы і дакументы адкрытыя і празрыстыя, акрамя выпадкаў, калі прынамсі 75% дзяржаваў вырашаць інакш.

9. **Адзін голас ад кожнай краіны ў Савеце**, 75% краінаў прымаюць рашэнні, калі яны прадстаўляюць палову насельніцтва ЕС.

10. **Камісія**: складаецца з прадстаўнікоў ад кожнага нацыянальнага парламента, якія нясуць адказнасць, а таксама могуць быць адпраўлены ў адстаўку нацыянальным парламентам, прэзідэнтам камісіі, выбраным усімі нацыянальнымі парламентамі.

11. **Суд не павінен прымаць заканадаўства** і павінен паважаць **Еўрапейскую канвенцыю правоў чалавека**.

12. **Партнёрскія пагадненні** з іншымі краінамі, дапамога бяднейшым краінам nations.

13. **Лепшы кантроль**: Омбудсмен, Суд Аўдытараў і Камітэт бюджэтнага кантролю, якія маюць доступ да ўсіх дакументаў.

14. **Роўнасць моваў** у заканадаўстве.

15. **"Не" войску ЕС**, міратворчасць праз ААН, аброна праз НАТО ці незалежна.

**Першая альтэрнатыва**

**Еўропа дэмакратый:**

· Перадаць уладу дзяржавам ЕС і сканцэнтравацца на памежных пытаннях;

· Выкарыстоўваць нацыянальныя парламенты для кантроля рашэнняў ЕС і выбару камісіянераў;

· Дазволіць выбарцам у дзяржавах мець апошняе слова, заўжды выконваючы нацыянальныя канстытуцыі;

· Не вызнаваць, што існуе адзін еўрапейскі народ, але што Еўропа складаецца з розных народаў.

**Другая альтэрнатыва**

**Федэральная Еўропа:**

· Перамясціць прыняцце рашэнняў ад нацыянальных парламентаў да дзвюхпалатнага Еўрапейскага Парламента;

· Не дазваляць заканадаўчай уладзе ад дзяржаваў перар'тварацца ў непразрыстую выканаўчую ўладу;

· Даваць апошняе слова выбарцам Еўропы, арганізаваным у Еўрапейскую федэрацыю, кіруемую выбарцамі ўсёй Еўропы.

**Ваш выбар**

На падставе вышэйпададзенага вырашыце, чаму Вы аддаеце перавагу:

· Канстытуцыі ЕС?

· Альтэрнатыўнаму бачанню Еўропы дэмакратый, дзе выбарцы маюць апошняе слова?

· Бачанню Еўропы як федэрацыі з агульнай еўрапейскай парламентскай сістэмай?

# Агульны агляд гісторыі палітычнай інтэграцыі ў аб'яднанай Еўропе

*Ігар Лялькоў,*
*старшыня Беларускага Шуманаўскага таварыства, Мінск*

Далёка не кожны, хто з захапленнем глядзіць на сённяшнюю стабільнасць і заможнасць еўрапейскіх краін, узгадвае прычыны, якія падштурхнулі еўрапейцаў да аб'яднання. Між тым, памяць пра пачаткі будаўніцтва адзінай Еўропы ёсць важным элементам агульнаеўрапейскай свядомасці.

Нагадаем, што пасля Другой сусветнай вайны былыя еўрапейскія вялікія дзяржавы, такія як Францыя, Вялікабрытанія альбо Германія, страцілі свой уплыў і значэнне на міжнароднай арэне. Яны саступілі іх дзвюм новым звышдзяржавам – ЗША і СССР. Еўрапейскія гаспадаркі, разбураныя вайною, патрабавалі інвестыцый і міру дзеля адбудовы. Разам з тым, прычыны вайны бачыліся, перадусім, у нацыяналістычным асляпленні і няздольнасці асобных дзяржаваў да кампрамісу. У атмасферы першых паваенных гадоў вельмі патрэбна была ідэя новага паразумення. Такой ідэяй стала ідэя "аб'яднанай Еўропы". Яна ўспрымалася як альтэрнатыва былому даваеннаму парадку, заснаванаму на канкурэнцыі паміж асобнымі дзяржавамі, як магчымасць стварыць супольнасць новага кшталту, якая б мінімізавала пагрозу ўнутрыеўрапейскай вайны і забяспечвала б абарону перад пагрозай знешняй экспансіі. Апрача гэтага, еўрапейцам, якія перажылі абмежаванні ваенных гадоў, накладзеныя на правы і свабоды грамадзянаў, будучая адзіная еўрапейская прастора ўяўлялася гарантыяй вольнага руху асобаў, поглядаў, інфармацыі, а таксама прадукцыі ды капіталу. Адначасова аб'яднанне несла надзею на падвышэнне эканамічнага дабрабыту і палітычнай вагі на міжнароднай арэне.

**У атмасферы першых паваенных гадоў вельмі патрэбна была ідэя новага паразумення. Такой ідэяй стала ідэя "аб'яднанай Еўропы". Яна ўспрымалася як альтэрнатыва былому даваеннаму парадку, заснаванаму на канкурэнцыі.**

Ужо ў Цюрыхскай лекцыі Уінстана Чэрчыля 1946 г. была выказаная прапанова арыентавацца на стварэнне Злучаных Штатаў Еўропы. Першым крокам на гэтым шляху павінна было стаць стварэнне Еўрапейскай рады міністраў. У маі 1948 г. у Гаазе адбываецца Еўрапейскі кангрэс, на якім паўстае Еўрапейскі рух, які аб'ядноўвае ўплывовых палітыкаў розных палітычных поглядаў – ад хрысціянскіх дэмакратаў (як Рабэр Шуман ці Конрад Адэнаўэр) да сацыялістаў (як Леон Блюм ці Франсуа Мітэран). У "Палітычнай дэкларацыі" гэтага руху было запісана патрабаванне палітычнага і эканамічнага аб'яднання еўрапейскіх дзяржаваў

пры некаторым абмежаванні іх нацыянальнага суверэнітэту. Апрача гэтага, Еўрапейскі кангрэс запатрабаваў стварэння Савета Еўропы, які паўстане трохі пазней – у 1949 г.

Але галоўнай перашкодай на шляху да аб'яднання еўрапейскіх краін было ў той час нявырашанае нямецкае пытанне. Яго сутнасць палягала на падзеленасці Германіі на некалькі акупацыйных зонаў, на нязгодзе паміж саюзнікамі-пераможцамі наконт рэпарацый, дэмілітарызацыі краіны і правядзення яе межаў, як на Усходзе, так і на Захадзе. І ў гэтых умовах вырашальную, і, можа, не да канца ацэненую ролю ва ўмацаванні еўрапейскага адзінства адыгралі саюзнікі з-за Атлантыкі... ЗША бліскуча правялі найскладанейшую аперацыю кіравання эканамічным, культурным і палітычным аднаўленнем Заходняй Еўропы, прычым гэты працэс суправаджаўся ініцыятывамі, надзвычай спрыяльнымі для еўрафільскага руху. Прычым асаблівасць сітуацыі вымушала да прыняцця гэтых ініцыятываў нават самых заціятых праціўнікаў еўрапейскага адзінства з кіруючых колаў некаторых дзяржаў. Так "план Маршала" быў прапанаваны 5 чэрвеня 1947 г. для ўсёй Еўропы, уключна з СССР і Германіяй. Апошняя на той момант не існавала дэ-юрэ, але рэцыпіентамі амерыканскай дапамогі прапаноўвалася стаць яе асобным заходнім і ўсходнім землям.

Вашынгтонскі праект аднаўлення прадугледжваў уключэнне ў адну схему трох фактараў: выдзялення дапамогі, эканамічнай лібералізацыі ды еўрапейскай кааперацыі. Амерыканская дапамога мусіла стаць базаю для гэтай кааперацыі: яна накіроўвалася 16 краінам, што прынялі "План Маршала" і злучыліся ў красавіку 1948 г. у Арганізацыю еўрапейскага эканамічнага супрацоўніцтва (АЕЭС). Толькі праз гэтую арганізацыю і толькі разам яны маглі фармуляваць свае запыты, а атрыманыя сродкі размяркоўваліся таксама праз АЕЭС. З гэтае нагоды тры заходненямецкія зоны акупацыі (10 земляў) апынуліся згрупаванымі ў рамках аднае сістэмы з іншымі еўрапейскімі краінамі і трактаваліся амерыканцамі нароўні з іншымі партнёрамі па АЕЭС, кшталту Францыі альбо Вялікабрытаніі. Такім чынам, ЗША зрабілі немагчымым для тых, хто прэтэндаваў на іх дапамогу, адмову ад еўрапейскага інтэграцыйнага працэсу і дэ-факта ўключылі ў гэты працэс Заходнюю Германію ўжо праз 2-3 гады пасля капітуляцыі Рэйху. Не выклікае сумненняў, што без гэтага вонкавага ўмяшальніцтва рэалізацыя ідэі адзінай Еўропы магло ў той час сутыкнуцца з невырашальнымі праблемамі.

Стварэнне Савета Еўропы ў маі 1949 г. было чарговым крокам у кірунку інтэграцыі нашага кантыненту. Фундаментам гэтай арганізацыі сталі тры прапановы, якія ўтрымліваліся ў Гаагскай дэкларацыі 1948 г., – стварэнне Еўрапейскай канвенцыі па абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў, Еўрапейскага суда па правах чалавека і Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. У выніку СЕ складаецца з названай Парламенцкай асамблеі, у рамах якой Камітэт міністраў забяспечвае бесперапыннасць яе дзейнасці, і са спецыялізаваных камітэтаў урадавых экспертаў па розных напрамках дзейнасці. Камітэт міністраў складаецца з міністраў замежных спраў дзяржаў–сяброў СЕ альбо іхніх намеснікаў. Генеральны сакратарыят не адказвае за нейкія канкрэтныя напрамкі, а як адзіны стала дзейсны орган выконвае даручэнні Парламенцкай асамблеі і Камітэту міністраў. Парламенцкая асамблея абірае Генеральнага сакратара, які падпарадкоўваецца Камітэту міністраў. Асноўныя дакументы, якія выпрацоўвае Савет Еўропы, – гэта канвенцыі. Яны не з'яўляюцца юрыдычнымі актамі і носяць заклікальны характар, г.зн. заклікаюць дзяржавы, якія да іх далучыліся, прыстасоўваць сваё нацыянальнае заканадаўства да зместу канвенцый. Такім чынам, інтэграцыя ў рамках Савета Еўропы носіць хутчэй дэкларатыўны характар і мае хутчэй сімвалічны ўплыў на далейшае развіццё еўрапейскай палітычнай інтэграцыі.

**Але галоўнай перашкодай на шляху да аб'яднання еўрапейскіх краін было ў той час невырашанае нямецкае пытанне. Яго сутнасць палягала на падзеленасці Германіі на некалькі акупацыйных зонаў.**

Адным з самых важных дакументаў у гісторыі гэтага працэсу з'яўляецца мемарандум, падрыхтаваны і агучаны міністрам замежных спраў Францыі Рабэрам Шуманам у 1950 г. Гэты план, які пазней атрымаў назву "Плану Шумана", прапаноўваў засяродзіцца на "рэалізацыі канкрэтных супольных праектаў і ствараць салідарнасць спраў". Рэалізацыя "План Шумана" стала першым рэальным крокам на шляху да Еўрапейскага Саюза. 18 красавіка 1951 г. у Парыжы Заходняя Германія, Францыя, Італія, Бельгія, Нідэрланды і Люксембург падпісалі дамову аб стварэнні Еўрапейскай Супольнасці Вугалю і Сталі. ЕСВС была першай эўрапейскай арганізацыяй, якая мела рэальную ўладу і наднацыянальныя інстытуты кіравання. Дамова аб стварэнні ЕСВС набыла моц 23 ліпеня 1952 г. Згодна з ёй выканаўчыя функцыі ў Супольнасці былі аддадзеныя Вярхоўнаму органу, што складаўся з дзевяці сябраў, якія прызначаліся ўрадамі краін-удзельніц, але былі цалкам незалежныя ў сваіх рашэннях. Агульная асамблея была надзелена паўнамоцтвамі дыскусійнага сходу з вельмі абмежаванымі правамі кантролю. Савета міністраў меў заканадаўчыя функцыі, ёна выбіраў палітычныя напрамкі і ў адпаведнасці з імі выдавала дырэктывы. Вярхоўны суд з 11 суддзяў ажыццяўляў кантроль за выкананнем дамоваў. Кансультацыйны камітэт складаўся з прадстаўнікоў розных спецыялізаваных групаў.

Усё гэта цалкам адпавядала слыннаму "метаду Манэ", распрацаванаму французскім палітыкам і грамадскім дзеячам, першым кіраўніком Вярхоўнага органу ЕСВС Жанам Манэ. Закладзеныя ў гэтым метадзе прынцыпы еўрапейскай інтэграцыі можна выкласці ў трох тэзісах:

- эканамічная інтэграцыя павінна папярэднічаць палітычнаму аб'яднанью;
- падставай паспяховай інтэграцыі ёсць прынцып наднацыянальнасці, які прадугледжвае перадачу нацыянальнымі дзяржавамі часткі свайго суверэнітэту наддзяржаўным інстытутам;
- у працэсе інтэграцыйнага будаўніцтва ў першаю чаргу павінны вырашацца простыя задачы, у дачыненні да якіх ёсць згода ўсіх удзельнікаў, і на гэтай базе стваряюцца перадумовы для вырашэння больш складаных задачаў.

Такім чынам, ідэя ЕСВС была перадусім функцыянальнай. Яна, натуральна, мела на ўвазе канчатковую мэту – стварэнне Злучаных Штатаў Еўропы, гарачымі прыхільнікамі якіх былі і Шуман, і Манэ. Аднак, зыходзячы з рэаліяў, меркавалася, што гэтая мэта не можа быць дасягнутая адразу, таму прадугледжвалася паслядоўнасць крокаў, якая дакладна дазволіць яе дасягнуць. Ідэя грунтавалася на "эфекце паступовага ўцягвання", які мусіў зрабіць працэс інтэграцыі незваротным.

Аднак, хуткага працягу ўдалы пачатак інтэграцыі не атрымаў, хаця для гэтага былі ўсе шанцы. Ужо 27 траўня 1952 г. дзяржавы–ўдзельніцы ЕСВС падпісалі дамову аб стварэнні Еўрапейскай абарончай супольнасці (ЕАС). Ініцыята- ➲

**Адным з самых важных дакументаў з'яўляецца мемарандум, падрыхтаваны Рабэрам Шуманам у 1950 г. Рэалізацыя "плану Шумана" стала першым рэальным крокам на шляху да Еўрапейскага Саюза.**

рам падпісання быў тагачасны прэм'ер-міністр Францыі Рэнэ Плевэн, і дамова прадугледжвала ўмацаванне ў вайсковай сферы прынцыпаў дэкларацыі Шумана: паслядоўнае пашырэнне функцыянальнай інтэграцыі на новыя сектары па мадэлі ЕСВС, стварэнне інстытутаў і органаў пэрадфедэратыўнага тыпу, агульны інтарэс дзяржаваў-удзельніц. Прадугледжвалася стварэнне Еўрапейскага камісарыяту абароны, Савета міністраў абароны і асаблівы націск клаўся на стварэнне агульнага інтэграванага штаба еўрапейскай арміі з адзіным еўрапейскім міністрам абароны на чале.

На падставе гэтай дамовы ўжо на самым першым пасяджэнні Савета міністраў ЕСВС, 10 верасня 1952 г., было вырашана рыхтаваць праект Канстытуцыі Еўрапейскай палітычнай супольнасці (ЕПС). Гэты праект быў прадстаўлены на разгляд Рады міністраў 10 сакавіка 1953 г. і прадугледжваў стварэнне агульнага дзвюхпалатнага парламента (з Палатай нацый і Сенатам), Еўрапейскага выканаўчага савета, Савета нацыянальных міністраў, Суда Еўрапейскіх Супольнасцяў, Сацыяльна-эканамічнага савета. Пры гэтым Палата нацый мела быць наўпрост выбіранай грамадзянамі Супольнасці, а Еўрапейская выканаўчая рада прызначацца парламентам. Праект дамовы аб ЕПС быў ухвалены Агульнай асамблеяй ЕСВС, і здавалася, што ўжо адчынены шлях да фарміравання агульнаеўрапейскай прасторы, якая б мела тры вымярэнні: эканамічнае ў выглядзе ЕСВС, вайсковае ў выглядзе ЕАС і палітычнае з ЕПС. Аднак у 1954 г. Нацыянальны сход Францыі не ратыфікаваў дамову аб стварэнні ЕАС (нягледзячы на тое, што менавіта Францыя была ініцыяткаркай гэтай дамовы), пасля чаго згубіў актуальнасць і праект дамовы аб ЕПС.

Няўдалыя спробы стварэння Еўрапейскай Палітычнай і Еўрапейскай Абарончай супольнасцяў у 1952–54 гг. часова прыпынілі працэс еўраінтэграцыі. Наступная спроба пайсці далей адбылася ў пачатку чэрвеня 1955 г., калі міністры замежных спраў шасці краін ЕСВС пачалі абмеркаванне магчымасцяў аднаўлення інтэграцыйнага працэсу. Гэтым разам ініцыятыву ўзялі на сябе ўрады Бельгіі і Нідэрландаў, якія прапанавалі стварыць агульны гаспадарчы рынак. Адначасова Францыя выступіла з прапановай стварэння Еўрапейскай Супольнасці Атамнай Энергіі. Працэс распрацоўкі гэтых праектаў і перамоваў па ім цягнуўся каля двух гадоў. 25 сакавіка 1957 г. у Рыме адбылося падпісанне дзвюх дамоваў: аб стварэнні Еўрапейскай Эканамічнай Супольнасці (ЕЭС) і Еўрапейскай Супольнасці Атамнай Энергіі (ЕЎРАТАМ). Гэтыя дамовы падпісалі шэсць дзяржаў-удзельніц ЭСВС.

Галоўным наступствам сакавіцкіх падзеяў сталася стварэнне Унутранага Рынку, які абапіраўся на так званыя "чатыры свабоды": вольнаем перамяшчэнне тавараў, паслугаў, асобаў і капіталу паміж дзяржавамі-ўдзельніцамі. Стварэнне адразу дзвюх структур – ЕЭС і ЕЎРАТАМа – у дадатак да ЕСВС тлумачылася неабходнасцю "падзелу адказнасці", каб мінімізаваць у будучым рызыку распаду саюзу. ЕЎРАТАМ павінен быў збудаваць "ядзерную Еўропу" і забяспечыць саюз энергарэсурсамі. ЕЭС мусіла аб'яднаць усю вытворчасць і перамяшчэнне тавараў (апрача вытворчасці вугалю і сталі, якая рэгулявалася ранейшай дамовай) у адзіны еўрапейскі рынак.

**Паспяховасць працэсу аб'яднання шасці краін паўплывала на рашэнне Даніі, Ірландыі і Вялікабрытаніі далучыцца да Еўрапейскай Супольнасці. Адбылося гэта ў 1973 г. Адначасова з тэрытарыяльным пашырэннем было прынятае рашэнне пашырыць сферу адказнасці агульнаеўрапейскіх органаў.**

Пасля таго як выкананне Рымскіх дамоў, здавалася, пайшло паспяхова, адбылася новая спроба стварэння агульных палітычных рамак. На саміце ў Боне ў 1961 г. была прадстаўленая першая версія так званага "Плану Фушэ" (ад прозвішча распрацоўшчыка – вядомага французскага дыпламата). План не прадугледжваў аднаўлення стратэгій наддзяржаўнага будаўніцтва, а прапаноўваў рэканструкцыю мадэлі міждзяржаўнага супрацоўніцтва. Другая версія гэтага плану, 1962 г., прадугледжвала стварэнне саюзу, мэтай якога было б развіццё супрацоўніцтва паміж дзяржавамі-ўдзельніцамі ў такіх галінах, як знешняя палітыка, абарона і правы чалавека. Але адначасная адмова Францыі нават разглядаць перспектыву далучэння да Супольнасцяў Вялікабрытаніі была патлумачана як спроба французаў навязаць іншым партнёрам свае правілы гульні і рэакцыяй на гэта стала спыненне перамоў па "Плану Фушэ".

Увогуле, у гады кіравання Шарля дэ Голя (1958–1968) Францыя заставалася галоўным паслядоўным праціўнікам паглыблення палітычнай інтэграцыі і пашырэння складу Еўрапейскіх Супольнасцяў. Толькі пры пераемніку дэ Голя на пасадзе прэзідэнта, Жоржу Пампіду, пачынаюць адбывацца пэўныя зрухі. Пачатак ім паклаў Гаагскі саміт у 1969 г., калі былі прынятыя важныя рашэнні аб пашырэнні ЕС на Поўнач, стварэнні да 1980 г. Эканамічнага і валютнага саюза, пашырэнні паўнамоцтваў Еўрапарламента і правядзенні непасрэдных выбараў яго дэпутатаў. Гэты новы інтэграцыйны ўздым адлюстраваўся ў Давін'ёнскім пагадненні 1970 г. аб палітычным супрацоўніцтве. У ім прапаноўвалася стварэнне палітычнага саюза на базе паступовай гарманізацыі знешняй палітыкі дзяржаў-удзельніц.

**Адмова Францыі разглядаць перспектыву далучэння Вялікабрытаніі патлумачана як спроба французаў навязаць партнёрам свае "правілы гульні" і рэакцыяй на гэта стала спыненне перамоў па "плану Фушэ".**

Паспяховасць працэсу аб'яднання шасці краін паўплывала на рашэнне Даніі, Ірландыі і Вялікабрытаніі далучыцца да Еўрапейскай Супольнасці. Адбылося гэта ў 1973 г. Адначасова з тэрытарыяльным пашырэннем было прынятае рашэнне пашырыць сферу адказнасці агульнаеўрапейскіх органаў. З гэтага часу яны сталі адказваць за правядзенне сацыяльнай палітыкі, палітыкі рэгіянальнага развіцця і ахову навакольнага асяроддзя. Дадатковым крокам у гэтым кірунку было стварэнне Еўрапейскага фонду рэгіянальнага развіцця ў 1975 г. У тым самым 1975 г. быў прэзентаваны слынны "Даклад аб Еўрапейскім Саюзе", які ад імя свайго стваральніка, прэм'ер-міністра Бельгіі Леа Тындэманса, атрымаў назву "даклад Тындэманса". У гэтым дакуменце былі зведзеныя ў адно канкрэтныя прапановы па ўмацаванні інстытутаў Супольнасцяў дзеля стварэння ў перспектыве Еўрапейскага Саюза.

Яшчэ адным важным дакументам таго часу сталася "Урачыстая дэкларацыя аб Еўрапейскім Саюзе", прынятая на Штутгартскім саміце ў 1983 г. У ёй гаворыцца, што "кіраўнікі дзяржаваў і ўрадаў пацвярджаюць абавязкі, узятыя на сябе ў адносінах рэалізацыі яшчэ больш шчыльнага саюзу паміж народамі і дзяржавамі–сябрамі Еўрапейскай Супольнасці". Гэтая дэкларацыя сціпла паўплывала на еўрапейскія інстытуты, але яна прывяла да нараджэння новых ідэй і распрацоўкі новых стратэгій. Адзіны Еўрапейскі Акт 1986 г. шмат у чым будзе вызначаны духам гэтае дэкларацыі.

У 1980-я гады, разам з пашырэннем ЕС на Поўдзень (у 1981 г. далучылася Грэцыя, а ў 1986 г. – Партугалія і Іспанія), адбыліся сур'ёзныя змены ў палітычнай канструкцыі Супольнасцяў. Калі ➲

да гэтага часу прыярытэт аддаваўся палітычнаму аб'яднанню Еўропы, то зараз на першы план выйшла жаданне забяспечыць эканамічную моц і гаспадарчае адзінства ЕС. У выніку дайшло да чарговага этапу ўшчыльнення інтэграцыі. Гэта адбылося ў 1986 г. разам з падпісаннем Адзінага Еўрапейскага Акту, які змяніў і дапоўніў дамовы аб ЕСВС, ЕЭС і ЕЎРАТАМе. Асноўным наступствам прыняцця АЕА сталася стварэнне адзінага еўрапейскага рынку да 1992 г., узмацненне ролі Еўрапейскага парламента, новая спрошчаная працэдура прыняцця рашэнняў на агульнаеўрапейскім узроўні, аб'яднанне разнародных еўрапейскіх арганізацый.

7 лютага 1992 г. у галандскім горадзе Маастрыхт адбылася гістарычная падзея —тут была падпісаная дамова аб стварэнні Еўрапейскага Саюза. У ёй былі акрэслены асноўныя напрамкі і графік пераходу да Эканамічнага і валютнага саюза. Сфера агульнай палітыкі пашыралася на адукацыю, ахову здароўя, культуру, трансеўрапейскія сеткі камунікацыяў і абарону правоў спажыўцоў. Дзяржавы–ўдзельніцы ЕС узялі на сябе абавязак праводзіць агульную знешнюю палітыку і палітыку бяспекі. Увядзеннем працэдуры сумесных рашэнняў былі пашыраныя і ўзмоцненыя паўнамоцтвы Еўрапейскага парламента. Было таксама ўведзенае грамадзянства ЕС.

У міжчассі да Еўрапейскага Саюза далучыліся новыя дзяржавы-ўдзельніцы: Аўстрыя, Фінляндыя і Швецыя (1995 г.). І наступным этапам інтэграцыі стала падпісанне ў лютым 1997 г. Амстэрдамскай дамовы. У дамове вызначаўся парадак галасавання ў Еўрапейскім Савеце, а лічба камісараў і еўрадэпутатаў была пастаўлена ў залежнасць ад пашырэння ЕС. Узмацніўся палітычны кантроль Еўрапейскага парламента над Еўракамісіяй, узрасла роля Еўрапейскага Суда. У галіне агульнай замежнай палітыкі і палітыкі бяспекі ЕС атрымаў новы інструмент дзеяння – так званыя "агульныя стратэгіі", у якіх акрэсліваюцца мэты замежнай палітыкі і палітыкі бяспекі. Амстэрдамская дамова пачала дзейнічаць з 1 мая 1999 г.

У лютым 2000 г. пачалася міжнародная канферэнцыя, мэтай якой было ўзгадненне наступных рэформаў іститутаў ЕС і механізмаў прыняцця рашэнняў. Яе вынікі былі запісаныя ў дамове, прынятай на снежаньскім саміце ў Ніцы (Ніцкая дамова). Лідэры "Пятнаццаткі" вырашылі, што "ад моманту ўваходжання ў жыццё Ніцкай дамовы, Саюз будзе гатовы бачыць у сваіх шэрагах новыя дзяржавы, калі яны дакажуць сваю здольнасць да выканання абавязкаў, якія вынікаюць з сяброўства ў ЕС". Была зацверджаная рэформа Савета міністраў, Еўрапейскага парламента і Камісіі. Таксама адбылося абвяшчэнне Хартыі Асноўных Правоў – збору правоў чалавека і грамадзянскіх свабодаў.

У снежні 2002 г., падчас саміту ў Капенгагене, было прынята рашэнне аб пашырэнні Еўрапейскага Саюза на Усход і далучэнні новых краін-удзельніц. (На падставе гэтага рашэння 1 траўня 2004 г. у ЕС увайшлі 10 краін Цэнтральнай Еўропы, Міжземнамор'я і Прыбалтыкі: Польшча, Чэхія, Славаччына, Венгрыя, Славенія, Мальта, Кіпр, Літва, Латвія, Эстонія.)

Спосабы функцыянавання пашыранага амаль удвая Саюза патрабавалі сур'ёзнага рэфармавання, а змены, унесеныя Амстэрдамскай і Ніцкай дамовай, не выглядалі дастатковымі. Таму на пасяджэнні Еўрапейскага Савета ў Лаэкене (Бельгія) у снежні 2001 г. было прынятае рашэнне пра стварэнне Канвенту аб будучыні Еўрапейскага Саюза (Еўрапейскага Канвенту). Асноўнай задачай, якая была пастаўленая перад Канвентам, было стварэнне новай мадэлі функцыянавання ЕС пасля апошняга пашырэння. У Канвент, які пачаў працу ў лютым 2002 г., увайшлі прадстаўнікі Еўрапарламенту, Еўракамісіі, прадстаўнікі нацыянальных парламентаў і ўрадаў. На яго чале стаў былы прэзідэнт Францыі Валеры Жыскар д'Эстэн. 20 чэрвеня 2003 г. на саміце ў Афінах ён прадставіў выпрацаваны Канвентам праект Канстытуцыі Еўрапейскага Саюза (афіцыйная назва – Дамова аб Канстытуцыі для Еўропы).

**У міжчассі да Еўрапейскага Саюза далучыліся новыя дзяржавы-ўдзельніцы: Аўстрыя, Фінляндыя і Швецыя (1995 г.). І наступным этапам інтэграцыі стала падпісанне ў лютым 1997 г. Амстэрдамскай дамовы.**

З гэтага часу пачала працу міжурадавая канферэнцыя, якая складалася з прадстаўнікоў урадаў дзяржаў–удзельніц ЕС і дзяржаў-кандыдатаў (на той час). На працягу года былі дасягнуты кампраміс па тых пытаннях, па якіх Канвент не здолеў прыйсці да ўзгодненага рашэння, а таксама ўнесены праўкі ў праект. Найбольш дыскусійнымі пытаннямі былі квоты прадстаўніцтва краін-удзельніц у Еўрапейскім Савеце, Еўракамісіі і Еўрапарламенце, захаванне прынцыпу кансенсуса пры прыняцці рашэнняў па асобных пытаннях, а таксама наяўнасць ці адсутнасць у прэамбуле Канстытуцыі згадкі пра хрысціянскія карані Еўропы. У выніку каталікі мусілі змірыцца з адсутнасцю ўсялякіх згадак пра хрысціянства ў Канстытуцыі, а яе выніковы тэкст быў прыняты Еўрапейскім Саветам у Дубліне 18 чэрвеня 2004 г. і ўрачыста падпісаны лідэрамі 25 краін ЕС у Рыме 29 кастрычніка гэтага ж году.

Асноўныя навіны, якія мае ўнесці Канстытуцыя ў палітычную будову Еўрасаюза:

- ЕС узмацняе сваю правасуб'ектнасць, павышаецца абавязковы характар і празрыстасць працэсаў прыняцця рашэнняў;
- узмацняецца прынцып наддзяржаўнасці ў фармаванні Еўракамісіі, яе колькасны склад з 2009 г. абмяжоўваецца 15 камісарамі з правам вырашальнага голасу і 10 – дарадчага, у далейшым прадугледжваецца ратацыйны прынцып замены;
- спрашчаецца працэдура прыняцця важных рашэнняў у Еўрапейскім Савеце і Савеце ЕС, адмяняецца прынцып кансенсуса, дастаткова большасці галасоў краін, якія рэпрэзентуюць 60% насельніцтва ЕС;
- пашыраецца ўдзел Еўрапарламента ў прыняцці рашэнняў;
- ствараецца пасада старшыні Еўрапейскага Савета замест сістэмы старшынства ў ЕС дзяржаў;
- прадугледжваецца абранне старшыні Еўракамісіі Еўрапейскім парламентам большасцю галасоў;
- уводзіцца пасада міністра замежных спраў ЕС, падсправаздачнага Еўрапейскай радзе і Еўрапейскай камісіі.

Каб Канстытуцыя набыла моц, усе дзяржавы–ўдзельніцы павінны ратыфікаваць яе на працягу двух гадоў пачынаючы з 29 кастрычніка 2004 г., у адпаведнасці з прынятай у дадзенай краіне працэдурай (альбо парламентам, альбо праз рэферэндум). На сёння 9 краін ратыфікавалі гэты дакумент (Аўстрыя, Германія, Грэцыя, Венгрыя, Італія, Славакія, Славенія, Іспанія і Люксембург), а грамадзяне Францыі і Нідэрландаў выказаліся падчас рэферэндумаў супраць ратыфікацыі.

Прадугледжваецца, што пасля завяршэння працэсу ратыфікацыі Еўрапейская Канстытуцыя заменіць усе дамовы, якія зараз рэгламентуюць дзейнасць Еўрасаюза.

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падбор матэрыялаў і вёрстка – Зміцер Сасноўскі. Адказная за выпуск – Алена Макоўская.

Адрас рэдакцыі: вул. Рэвалюцыйная, 15, г. Мінск 220030, Рэспубліка Беларусь zbsb@lingvo.minsk.by; www.zbsb.org тэл. 289-31-94

Наклад 200 асобнікаў